Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 31 (85) Чацьвер, 20-га Жніўня 1925 г. м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць адзін раз у тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 80 гр.
" " " 3 " 2 зл. 40 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрас Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 20 гр. у тэксьце — 15 гр. на апош. стар.— 10 гр.

## Старая авантура на новы лад.

Газэты прынясьлі нам весткі аб распачацьці новай беларускай палітычнай акцыі ў Літве. У Коўні стварыўся „Беларускі Нацыянальны Камітэт", з нейкім, нікаму дагэтуль невядомым, А. Галавінскім на чале. У зьвязку з гэтым, літоўская ўрадовая прэса загаварыла аб патрэбе літоўска-беларускага паразуменьня й згоды, каб... супольнымі высілкамі адабраць Вільню ад Польшчы і далучыць яе да Літвы!

Гэта ёсьць старыя і добра вядомыя штукі. Хто з нас ня помніць, як ня так яшчэ даўно (гады 1919—1924) так званы „Урад Беларускай Народнай Рэспублікі" Ластоўскага перажываў мядовы месяц літоўска-беларускай згоды і „саюзу". Мы помнім добра аб знамянітай Пражскай Міжнароднай Беларускай Конфэрэнцыі, на якой былі прадстаўнікі і нашай групы. На конфэрэнцыі гэтай урад Ластоўскага in corpore на ўвесь сьвет абвясьціў дэкларацыю, што Вільня павінна належаць да Літвы. Прыхільнікаў Ластоўскага на конфэрэнцыі было аж 33, а нас, прадстаўнікоў палёнафільскага кірунку, было толькі 3!

Аднак, наш невялікі лічэбна, але цьвёрды пратэст проці безпадстаўных прэтэнсіяў Літвы да Вільні і, наагул, проці літоўскай інтрыгі на шкоду беларускаму народу, унёс моцны „дысонанс" у гэтак лоўка зладжаны нямецка-літоўскімі комбінатарамі антыпольска-беларускі канцэрт.

Часы зьмяніліся. Вільні літоўцы не дасталі. Паўстаньне, падрыхтаванае Ластоўскім дзеля адарваньня ад Польшчы з — прадвеку беларускіх зямель з мэтай далучэньня іх да Літвы, не удалося і скончылася прыкрым Беластоцкім працэсам „72 беларусаў" ды вастрогам. Знамянітая „умова" паміж „урадам" Ластоўскага і ўрадам літоўскім оказалася кавалкам звычайнай паперы. А як толькі літоўцы убачылі, што „урад" Ластоўскага *ім больш ніякой карысьці прынясьці ня можа*, дык бяз ніякае цэрэмоніі *зьліквідавалі яго*, нават зьняўшы ўвесь час вісеўшы над будынкам „ураду", бела-чырвона-белы сьцяг.

Завастрыўшыяся адносіны паміж беларусамі і літоўцамі закончыліся рэпрэсіямі проці беларусоў, што змусіла эміграваць у Чэхію амаль ня ўсю групу Ластоўскага.

Усё гэта было яшчэ так нядаўна... Ізноў цяпер мы бачым круты паварот літоўскай палітыкі ў адносінах да беларусоў. Зноў кінуліся літоўцы да гэтак яшчэ нядаўна магутнага літвінафільскага беларускага лагэру, але не знайшлі ўжо нікога з быўшых саюзьнікаў: група Ластоўскага была разьбіта; дзеячы ў эміграцыі... На новую літоўскую авантуру, якая нічога супольнага з беларускім адраджэнскім рухам ня мае, ніхто з ідэйных беларусоў ужо не пайшоў. Гэта выразна відаць з самога складу новага камітэту ў Коўні, у які не ўвайшоў ніхто з быўшых міністраў і дзеячоў Ластоўскага і з яго групы. Праўда, віцэ-старшынёю камітэту ёсьць наш стары знаёмы, б. пасол Бел. Павольскага клюбу—Якавюк, але яго „сымпатыі" да Літвы былі даўно добра ўсім вядомы, што і змусіла яго ў сваім часе „зьнікнуць у Літву.

Надта характэрны адносіны самога Ластоўскага да новага камітэту і ўсей гэтай авантуры. У сваім лісьце, паданым у літоўскай газэце, ён пратэстуе проці самазванага камітэту, у якім — як піша Ластоўскі—„няма нікога з беларусоў, апрача расейскіх эмігрантаў". Пратэставаць проці самай „ідэі" камітэту Ластоўскаму было даволі трудна, тым болей у літоўскай газэце. „Ідэя" гэтая ёсьць ня што іншае, як жаданьне беларускімі рукамі хапаць гарачыя каштаны для Літвы — дапамагчы літоўцам здабыць для іх Вільню! „Ідэя" зусім адпавядаючая моральнай вартасьці сяброў новага „бел—кома", якія ідуць на ганебную, шкадлівую для беларусоў работу пасьля таго, як літоўцы гэтак вераломна і гэтак нядаўна абманулі беларусоў, зламалі „умову", зьдзекаваліся і ганялі сваіх гэтак недаўніх прыяцеляў і „саюзьнікаў", прымусіўшы эміграваць актыўнае беларускае грамадзянства ў Чэхію. Ідуць сябры „бел—кома" на гэтую работу тады, калі „за карысную для Літвы справу" да гэтага часу Баран і многа іншых ахвяр літоўскіх авантураў сядзяць у беластоцкім вастрозе. Што тычыцца самой істоты „ідэі" — прэтэнсій літоўцаў да Вільні, дык нам, беларусам, яны проста сьмешны.

Поўная абсурднасьць прэтэнсіяў Літвы да Вільні ясна ўжо нават і заграніцай—у Эўропе. З гэтага боку надта характэрным ёсьць адзыў швэйцарскай газэты „Journal de Genewe", рэдактар якой, як сябра Таварыства Прыяцеляў Лігі Нацыяў, некалькі тыдняў таму спэцыяльна прыезджаў на Віленшчыну, каб дакладна праўдзіць на мяйсцох польска-літоўскія адносіны. Мартэн езьдзіў па ўсей Віленшчыне, аж да літоўскай граніцы; адведаў літоўскія арганізацыі, быў ў Вілен. Бел. Нац. Камітэце, быў і ў Час. Бел. Радзе.

І вось, скора пасьля гэтай паездкі, як рэзультат яго зусім аб'ектыўнага і ўсебаковага спраўджаньня прэтэнсій літоўцаў да Вільні, п. Мартэн у N 205 „Journal de Genewe" ад 29 ліпня ў перадавіцы пад загалоўкам „Memel et Wilno", вось што піша:

„Гэткім чынам, у сучасны мамэнт у Вільні літоўцаў няма, выключая некалькіх духоўных (pretres) і некалькіх служанак (servantes) і нязначнае лічбы жыхараў на мяйсцох (dans le territoire). Жаданьне вярнуць ці аддаць Вільню Літве ёсьць хімера (une chimère), бо народ гэтага ня хоча. Там, дзе ваколіцы Вільні ня польскія, яны беларускія. І беларусы жадаюць лепей мець дачыненьня з Польшчай чым з Літвою". Вось што кажа зусім об'ектыўная, бо нічым не зацікаўленая, швэйцарская газэта,—гэтак і ёсьць, фактычна.

І новую (de facto старую), раз ўжо збанкрутаваную літоўскую авантуру à priori чакае і на гэты раз поўны правал.

## Палітычны агляд.

У апошнія часы ўся Эўропа, а нават увесь сьвет перажывае агульны эканамічны крызіс і большыя або меншыя міжнародныя конфлікты. Кітайскі конфлікт удалося, дзякуючы рашучаму ўмяшацельству Амэрыкі, крыху аслабіць. Большасць дзяржаў—пратэктараў у Кітаі прышла да пераконаньня, што далей нельга ўтрымоўваць гэткага палаженьня, якое было дагэтуль і пры якім ня можа быць дзяржаўнай незалежнасьці. Нельга далей утрымоўваць гэткага палажэньня, каб у дзяржаве істнавалі дзяржавы, і каб гаспадары ня былі гаспадарамі ў сябе ў хаце. Экстэрыторыяльнасьць, г. зн. поўная незалежнасьць і недатыкальнасьць чужаземных дзяржаў у Кітаі далей ня можа быць дапусьціма. Гэткага пагляду трымаецца Амэрыка і Францыя і з гэткім паглядам у канцы канцоў згодзіліся Англія і Японія, карыстаўшыяся найбольшымі прывілеямі ў Кітаі. Пасьля гэтага зрабілася магчымым склікаць конфэрэнцыю 9-ёх дзяржаваў, якую запрапанавала Амэрыка і на якую выказалі ўжо сваю згоду ўсе дзяржавы, зацікаўленыя ў Кітаі. Конфэрэнцыя будзе склікана ў восені ў Пэкіне і зусім магчыма, што ёй удасца ліквідаваць кітайскі конфлікт. Як-ні-як, з гэтага конфлікту выйдзе пераможцам Кітай, а чужаземцам прыдзецца пазбавіцца шмат якіх правоў і прывілеяў. Але самым важным рэзультатам уладжаньня кітайскага конфлікту будзе тое, што бальшавікі страцяць свой уплыў у Кітаі і, наагул, на Усходзе, які яны мелі дагэтуль і які хочуць выкарыстаць на шкоду агульнага міру.

Палепшаньне палажэньня ў Кітаі ўжо адбілася на палажэньні С. С. Р. Р. Бальшавікі ізноў пачынаюць зьмяняць свой фронт і больш цікавіцца эўропэйскімі справамі, тым болей, што Эўропа цяпер перажывае цяжкі эканамічны крызіс. Каб не падгатаўляць грунту дзеля бальшавіцкай агітацыі, ангельскі ўрад пайшоў на ўсе ахвяры, каб толькі не дапусьціць да забастоўкі горнарабочых, якая магла-б выклікаць шкодныя рэзультаты для Дзяржавы з эканамічнага боку. Конфлікт між ангельскімі рабочымі і гаспадарамі копяў пачаўся, як ведама, з таго, што апошнія, з прычыны зьменшанага вывазу каменнага вугальля, хацелі паменшыць і плату рабочым. Рабочыя пагразілі забастоўкай, якую абяцаліся

# ПА СЬВЕЦЕ.

### Падняцьце нямецкага флёту.

Пачатыя ў леташнім годзе работы па падняцьцю затопленага нямецкага флёту у Скапа Флёў пасуваюцца з пасьпехам уперад.

У сучасны мамэнт бадай кожныя два тыдні падымаецца адно з патопленых вайсковых караблёў. Да гэтага часу паднята 13. Паднятыя караблі прадаюцца на злом. Браняносцы „Гіндэнбург“ і „Зэйдліц“, па 25.000 тон кожны, пакуль што яшчэ знаходзяцца на марскім дне, але вясной будзе зроблена спроба падняцьця і гэтых гігантаў.

### Грандзіозны мост.

Ангельскі ўрад пастанавіў збудаваць мост праз раку Замбезі (у Афрыцы), даўжынёй у 1200 мэтр. Кошт сталі, якая патрабуецца на будову маста, дасягне 3,25 мільёнаў фунтаў штэрлінгаў.

### Пажар нафты.

У Марэні (Румынія) пачаўся вялікі пажар у нафтовых крыніцах „Standart Oil Co“. З мэтай зьліквідаваньня пажару выслана палёвая артылерыя, якая снарадамі з гармат закідае вялізныя нафтовыя крыніцы Матар'яльныя страты аграмадны.

### Просьба аб казьні.

Дэпутат штату Коломбія, у Амэрыцы, Максом Гроу падаў да ўраду просьбу, каб яго publічна казьнілі на электрычным крэсьле. Ніякага праступку ён не зрабіў і казьнь яго павінна быць толькі вышэйшай мерай пратэста проці сьмертнае казьні.

Гэтую дзіўную просьбу папярэдзілі бурныя дэбаты ў Колюмбійскім сэнаце „аб родзе казьні, які трэ' ужываць да цяжкіх праступнікаў“. Большасьць была за казьнь пры помачы электрычнага крэсла, знаходзячы гэты спосаб найбольш гуманным і недарагім. Гроу горача пярэчыў і проці гэтае «электрафікацыі», і проці сьмертнае казьні наагул. Але ён застаўся ў меншасьці. Рэзультатам было ўзмацненьне нэрвовага разстройства, з якім ня могуць справіцца дактары і якое пабудзіла Гроу прасіць сабе у свайго ўраду „скорай і лёгкай“ сьмерці.

# ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

= **Комуністычны плякат.** 17-га жніўня нараніцы на Кіеўскай вул. у Вільні знойдзен вісеўшым на электрычных правадох комуністычны плякат з надпісам на польскай мове.

= **Павышэньне Камісара Ураду на м. Вільню.** Па чутках, мін. ўн. справаў п. Рачкевіч запрапанаваў Камісару Ураду на м. Вільню п. Вімбору становішча віцэ-міністра ўн. справаў, ці дарэктара дэпартамэнту па акраінных справах.

= **173 вагоны польскіх марак.** Старыя польскія папяровыя маркі, выбраныя з абароту, былі складзены ў 173 жел.-дар. вагоны і атпраўлены на дзьве папяровыя фабрыкі дзеля перарабкі. Адна з гэтых фабрык — Влоцлаўская — атрымала старых марак на намінальную вартасьць 500 трыльёнаў, з агульнай вагай у 1 мільён кілёграмаў.

Прыблізна такая-ж колькасьць старых крэдытак была зьнішчана на быдгошчскай папяровай фабрыцы.

Абедзьве фабрыкі заплацілі скарбу за гэту макулятуру 155,622 зл. Скарб атрымаў ад гэтае апэрацыі чыстай прыбылі 51,449 зл.

= **Аудыэнцыя у Міністра Унутраніх Справаў і Міністра Асьветы.** Старшыня Час. Бел. Рады А. Паўлюкевіч меў аудыэнцыю ў Варшаве ў міністра Ун. Спр. п. Рачкевіча, перад якім парушыў цэлы шэраг розных набалеўшых пытаньняў крэсоваго жыцьця і злажыў ад імя Рады адпаведны мэморыял. Адначасна п. Паўлюкевіч меў аўдыэнцыю у Міністра Асьветы, прад якім парушыў справу ўтварэньня дадатковых 11 этатаў на беларускіх вучыцельскіх курсах у Вільні для кандыдатаў Рады і Прасьветы з Навагрaдчыны, якія абмылкова не трапілі на курсы. Міністр прыхіліўся да просьбы Рады і даў загад аб павялічэньні ў Вільні этатаў на 11 асобаў для кандыдатаў Рады. Згодна просьбаў беларускіх гімназій Клецкае і Навагрaдзкае, прысланых да Час. Бел. Рады, п. старшыня прасіў аб урадовай субсыдыі для гэтых гімназій. На гэта п. міністр адказаў, што згаджаецца даць субсыдыю, але толькі тады, калі гэтыя гімназіі зробяцца „утраквістычнымі“. П. Паўлюкевіч адказаў, што на гэта ён не упаўнамочаны ад гімназіяў; аб варунках п. міністра давядзе да ведама педагогічных Радаў гімназій, якія будуць павінны самі прыняць рашэньне па гэтаму пытаньню.

= **Новая бел. газэта.** У Вільні пасьля нябожчыцы „Зоркі Беларуса“ пачало выходзіць „Жыцьце Беларуса“. Адказным рэдактарам ёсьць Я. Туркевіч, які падчас выбараў быў сябрам выбарчага камітэту саюзу пралетар'яту гарадоў і весак (комуністычны N 5). Вітаем! Гэта многа лепей, чымся ужываць на рэдактараў вучняў! І адкрыта і нікаму не шкадліва.

= **Беларускі тэатр.** У хуткім часе Бел. Тэатр, пад кіраўніцтвам п. Ф. Аляхновіча, выедзе на турнэ па Навагрaдчыне. Падробны плян турнэ будзе асобна пададзены ў нашай газэце.

## Юрыдычныя парады.

**Грам. Я. Бер — вічу.** *Пытаньне:* Пры рабоце адарвала мне машынай 2 пальцы левай рукі. Лячуся на кошт пана. Ці маю права на што-небудзь за увечча і што рабіць?

*Адказ*: Права маеце, але ўсё залежыць ад таго, у якой меры прызнаюць дактары страту працаздольнасьці. Калі-б прызналі зусім непрацаздольным, дык мелі-б права на ўвесь заработак свой за 10 гадоў. Калі часьцічна — дык на такую часьць гэтага заробка, у якой вы страцілі працаздольнасьць. Па гэтай справе лепей самі прыедзьце ў Вільню—завядзём справу. Але перш за усё даведайцеся ад доктара, у якім стопню ён лічыць страту Вашай працаздольнасьці.

**Грам. Мікалаю Б — ко.** Бацька мае 4 дз. зямлі з будынкамі. Сямья складаецца з 5 чалавек (бацька з мачыхай, брат і я з жонкай). Да маёй жаніцьбы жылі разам. Цяперака не прымаюць мяне ў дом. Ці маю права на зямлю і як атрымаць?

*Адказ.* Права вы маеце, але, пакуль жывы бацька, ён поўны гаспадар маемасьці і змусіць яго каб вам, або другому сыну даў што колечы, калі ён гэтага ня хоча—ня можна. Старайцеся дайсьці да згоды. Іначай нічога ня зробеце.

**Падп. П. Скр—ку.** Есьць два вэксэлі: не запоўнены на 250 руб. і другі выпісаны, выданы у 1904 г. на 500 р. у залатой валюце. Па гэтаму другому вэксалю у 1917 г. заплочаны працэнты (6 ад сотні) за 1914 — 1916 г. г. Ці можна спагнаць і колькі разам %?

*Адказ.* Шкода, што ня пішаце ці на вэксалю на 250 руб. ёсьць дата яго выдачы. Калі няма, а будзе спрэчка, дык за дату выдачы яго можа лічыцца год, які ёсьць на водных літарах вэксаля і можа стацца—калі год стары— што гэты доўг ужо пагашаны даўнасьцяй (10 гадоў). Другі — на 510 р., дзякуючы таму, што аплочаны % — добры. Наагул на прадваенных вэксалях можна атрымаць доўг 6%. Пераразоўваюцца гэткія даўгі на аснове „Rozporządzenia Prezydenta Rzeczypospolitej z dn. 14 maja 1924 o przerachowaniu zobowiązań prywatno-prawnych“. Згодна з нормамі гэтага распараджэньня, па вэксалю на 500 руб. з 6% вам да 1.I 1925 г. прычытаецца 196,84 злотых. % за 1925 г. ужо налічваюцца ад гэтай сумы. За 250 руб. сума раўняецца 66,50 злотым. Нармальны % — 6 гадовых, але неведома за колькі часоў браць і дзеля таго калі й будзе прысуджана, дык тольк ад часу прад'яўленьня позвы. Блянк гэтага вэксалю можаце выпаўніць самі, згодна з варункамі, на якія грошы былі пазычаны. Позву (іск) па суме падайце да Міравага Судзьдзі.

**Чытачу І. Тарыка.** На вашае пытаньне нельга даць адказу, бо ня ведама: ці хто небудзь *з вас* карыстаецца зямлёй з фальварку, *ці нехта чужы*; ці ўвесь фальварак дагэтуль у сялян, якім быў падзелены, ці адабраны; бацька зрокся зусім ад ўсякіх правоў на фальварак, ці толькі на карысьць двух старшых сыноў. Як і хто *фактычна* карыстаецца зямлёй у вёсцы? Наагул—трэба болей ясна пісаць і паказываць фактычны стан рэчаў, бо іначай адказ даць не магчыма. Напішыце дадаткова па вышэйдадзеным пытаньням.



Рэдактар-Выдавец **Язэп Салавей**

Друкарня „Lux“, вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.